# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

1529  1929







1919 І·Л 1929

ЛІСТАПАД № 1—12

1253393

БІБЛІЯТЭКА
Б·С·С
У ВІЛЬНІ

ЗЬМЕСТ.



Беларуская Друкарня Ім. Фр. Скарыны, Вільня, вул. Завальная 6.

# Студэнская Думка

Грамадзка-навуковая і літэратурная часопісь Беларускага Студэнства

Адрэс рэдакцыі: ВІЛЬНЯ, Людвісарская 1 — 19.

Падпіска на год з перасылкай . . 3 зл.
Цана асобнага нумару . . . . 1 зл.

№ 1 (12) | Лістапад | Год VI




125393

## СЛАВА ТЫМ...

*Слава тым, хто працаю трывалай*
*Фундамэнты ложа перамозе.*
*Слава тым, што ўперад йдуць з запалам,*
*Ідуць па раз абранае дарозе.*
*Слава тым, хто зрокся шчасьця, долі,*
*Каб аддацца справе безканечна.*
*Слава тым, хто зінуў у імя Волі,*
*Слава змагаром хай будзе вечна.*
*Слава тым, хто церпіць ў імя Справы,*
*Для якой аддаўся ўсей душою.*
*Слава тым, хто не жадае славы,*
*А працуе ў цішыні нямое.*
*Слава ціхім, цьвёрдым, раўнаважным,*
*Хто адчаю цэлы век ня знае.*
*Слава змагаром нябачаным, адважным,*
*Слава ім ад краю аж да краю.*
*Але слава і шаленцам, што як бура*
*Вырываюцца агністаю завеяй,*
*Рвуцца ў неба, гінуць у лазуры,*
*Слава, слава сьмелым Промэтэям!*
*У іх упадку чалавека слабасьць,*
*Узьлёты, — вось вялікасьць чалавека,*
*Хай іх знакам і ня ёсьць трываласьць,*
*Слава ім аж да сканчэньня векаў.*
*Слава Вам, што працаю трывалай*
*Шлях кладзеце сьветлае Ідэі,*
*Слава й Вам, што рвецеся з запалам,*
*Слава ціхім! Слава Промэтэям!*

А. Б.



*Вільня,*
*Лістапад 1929 г.*

Прыступаючы да працы ў новым 1929-30 акадэмічным годзе, нельга прайсьці моўчкі, каб не адзначыць у нашай студэнскай дзейнасьці гэтага, вялікае вагі, мамэнту.

Беларуская студэнская моладзь, ня гледзючы на трудныя варункі працы, ня гледзючы на поўную нэгацыю, якой трактуюць яе ўсе іншыя, ўсё-ж такі змагла апраўдаць свае заданьні. Нязначыць аднак гэта, што мы дакладна выконваем усё тое, што ляжыць у нашым абавязку. Беларуская студэнская моладзь мусіць перадусім мець на ўвазе сваё выняткавае палажэньне, якое выпала ей у адносінах да свайго народу. Справа ў тым, што калі іншае студэнства зьяўляецца сынамі вольных і незалежных народаў, то мы аднак яшчэ пазбаўлены гэтага апошняга. І вось у гэтым якраз і крыецца тое нашае становішча, якое мы павінны заняць на дарозе сваей дзейнасьці. Гэта значыць, што мы сваей дзейнасьці не павінны мерыць дзейнасьцю іншых, а ставіць сабе большыя і шырэйшыя вымаганьні.

З другога боку, мы павінны ясна ўсьведамляць сваю ролю, як студэнскае моладзі, у беларускім адраджэнскім руху, тую ролю, якую спаўняем, як і тую, якую спаўняць павінны.

Беларускі адраджэнскі рух быў якраз запачаткаваны беларускай студэнскай моладзьдзю, якая, будучы раскінута па ўсіх расейскіх унівэрсытэцкіх цэнтрах, першая пачала гуртавацца на ніве беларускага адраджэньня і класьці першыя здаровыя падваліны пад будаваньне будучага агульна-народнага гмаху.

У свае-ж студэнскія гады пачаў шырокую грамадзкую працу найвялікшы піёнэр беларускага адраджэнскага руху — Іван Луцкевіч. Такім спосабам беларуская студэнская моладзь у недалёкай прошласьці свой абавязак перад народам споўніла поўнасьцю.

А сяньня?

На апошняе пытаньне даць адказ ёсьць справай лёгкай і адначасна цяжкой. Лёгкай — бо перад намі сучаснасьць, калі мы ўсё бачым беспасярэдна, цяжэй, — бо пры сучасных скамплікаваных абставінах, у якіх знаходзіцца беларускі адраджэнскі рух, даць поўную, аб'ектыўную ацэнку тае ці іншае дзейнасьці ёсьць немагчыма.

І мы сяньня робячы пераглядъ сваей дзейнасьці можам ацаніць яе толькі прыблізна. Паміма ўсяго мусім прызнаць, што беларуская студэнская моладзь у сяньняшні мамэнт стаіць так сама на вышыні сваіх заданьняў, хоць можа ня ў той меры, як гэта вымагалася-б пры нармальных варунках нашага разьвіцьця.

Беларускае студэнства ўжо патрапіла вырабіць свой уласны круг дзейнасьці, палягаючы на грамадзкім самавыробленьні і ў далейшым, на шырокай працы ў кірунку здабываньня новых вартасьцяў у жыцьці грамадзкім.

Гэтага аднак-жа мала. Трэба яшчэ ясна ўсьведаміць свой абавязак перад народам, і прыступіць да грамадзкае дзейнасьці ў шырэйшым маштабе. Мы павінны здаць сабе ясна справу, што лепшую будучыню, за якую ваюем, зможыма здабыць толькі самаахвярнай і сумленнай працай

Адзіным-жа паказьнікам у нашай цярністай дарозе хай будзе заўсёды творчая і сьветлая ідэя — *Вольная і Незалежная Беларусь*!

* *
*

Год 1929 прынёс Беларускаму Народу два юбілеі. Першы — гэта дзесятыя ўгодкі сьмерці сьветлае памяці Івана Луцкевіча, піёнэра беларускага адраджэнскага руху, другі — чатырохсотлецьце Літоўскага Статуту. Сьвяты гэтыя — гэта ў двух сказах нашая гісторыя. Дзесятыя ўгодкі сьмерці І. Луцкевіча насоўваюць нам успаміны яшчэ, здаецца, недалёкага часу, калі, па даўгім сьне беларускі адраджэнскі рух прыняў больш менш шырокі размах; чатырохсотлецьце-ж Літоўскага Статуту напамінае нам аб нашае далёкай гісторыі, аб тым часе, калі разьвівалася беларуская культура, не прадбачучы, што яе чакае даўгі, бо аж некалькі стагодзьдзяў трываўшы, цяжкі заняпад. Гэтыя сьвяты дазваляюць нам з гордасьцяй і надзеяй на будучыню ісьці сваім шляхам. З гордасьцю — бо мы маем памятнікі, якімі толькі нялічныя народы могуць пахваліцца, з надзеяй, — бо народ, маючы гэтакую прошласьць, такіх поўных ахвярнасьці сыноў — не загіне.

Беларускае Студэнства ў Вільні, хочучы адзначыць абодвы гэтыя сьвяты па меры свае духоўнае і матэрыяльнае магчымасьці — пасьвячае ім № 1(12) «Студэнскае Думкі». Трэба, аднак-жа, сказаць, што калі духоўныя магчымасьці зале-

жаць ад самога беларускага студэнства і з кожным годам павялічваюцца і разьвіваюцца, дык матэр'яльныя знаходзяцца ў пэрыядзе агульнае стагнацыі. «Студэнская Думка», як і раней, выходзе непэрыядычна, што вельмі шкодзе здабываньню сталых прэнумэратараў. Тымчасам мэтай бел. студэнства зьяўляецца выдаваньне «Студэнскае Думкі» прынамся раз на трымэстр.

Дзеля падтрыманьня і зьдзейсьненьня гэтае думкі, Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх чытачоў і сымпатыкаў нашага выдавецтва, каб яны прышлі з фінансавай дапамогай нашае часопісі. Грошы тут патрэбны зусім нязначныя, а тымчасам гэты факт будзе сьведчыць аб моцнай сувязі паміж беларускім грамадзянствам і моладзьдзю, і дасьць нам магчымасьць і апору далейшага контынуаваньня нашае працы.

*Рэдакцыя.*

# Памяці Івана Луцкевіча.

Ударыў вецер асеньні ў струны залацістыя дрэў пажоўклых, ударыў са смуткам і ў даль паляцеў безканечную.

Песьняй цягучаю дрэвы азваліся, песьняй жалобнай шасьцелі тужліва.

Шэрыя хмары неба спавілі і плакала неба лета хаваючы. Срыбрнымі сьлёзамі плакала неба, падалі каплі на поле спусьцелае.

Сэрца спавіла туга безканечная.

І ўспамінаецца той, хто ціха сьпіць у магіле, у сырое зямліцы.

Цені памёршых снуюць прад вачыма, цені часамі так блізкія, родныя, цені людзей адышоўшых ад нас.

Там, гэй далёка ў чужыне, у цёмнай магіле сьпіць Ён, змагар зямлі Беларускай і вецер асеньні напэўна дзьмухне ў магілу Ягоную, уздыхам радзімага Краю, песьню Яму запяе аб Айчыне, песьню змаганьняў, мучэньняў і болю, песьню надзеі на лепшыя дні.

І сьніць Ён будзе, што Народ, для якога жыцьцё сваё цэлае сьмела аддаў, ідзе ўперад хваляй няўпыннай, ідзе моцны і зьяднаны.

Раскажа Яму вецер асеньні ў песьні жудлівай, як цяжка яшчэ нам жывецца, раскажа, як шэрань імгла спавівае прасторы, паскардзіцца ціха Яму.

Раскажа, што хоць час ад часу слабее агонь у паходні, якую Ён першы пачаў распаляці, а ўсё-ж яе моцна трымаюць у далоні ўсе тыя, каму дарагое імя Беларусі, раскажа, бо Ён так любіў Край свой родны, што цэлы аддаўся яму.

Раскажа ў час гэты нудны, асеньні, калі дрэвы лісьцямі зямлю ўсьцілаюць, калі цягнуцца ў вырай цёмнымі нізкамі з крыкам тужлівым сьцягі жураўліныя, з роднага краю ў старонку чужую, калі сэрца туга агартае імглою і шэра так робіцца неяк навокал. А. Б.

**Ст. Станкевіч**

# Іван Луцкевіч

## (У ДЗЕСЯТЫЯ ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ ЯГО)

## (1919—1929 г.).

Дзесяць гадоў таму назад беларускі народ разьвітаўся з найвялікшым змагаром за яго сьвятыя ідэалы, які самаахвярнай і няўтомнай працаю найбольш прычыніўся да адраджэньня Беларусі — з Іванам Луцкевічам.

І хоць ужо сяньня ад таго часу мінула роўна дзесяць гадоў, калі між намі жыў і працаваў Іван Луцкевіч, які над усё пакахаў Беларусь і ў ахвяры для яе злажыў нават сваё жыцьцё, то аднак ён між намі жыве і сёньня і будзе жыць вечна, бо вялікія ідэі ніколі ня гінуць разам з сваім тварцом, а зьяўляюцца несьмяротнымі.

У той мамэнт, калі Іван Луцкевіч выступаў на грамадзкую арэну дзейнасьці, г. зн. у апошніх гадох XIX стагодзьдзя, беларускі адраджэнскі рух быў яшчэ вельмі слабы. Праляцела эпоха дзейнасьці стара-шляхоцкіх романтыкаў, якая запачаткавала адраджэньне Беларусі; прагрымелі прызывы К. Каліноўскага і заклікі Фр. Багушэвіча, і хоць гэтыя мамэнты ўсе разам былі найвялікшымі праявамі творчага жыцьця прабуджаючагася народу, то аднак яшчэ не пацягнулі за сабою масаў.

Апошнія дзесяткі гадоў XIX ст. адзначаюцца ў усей Расеі агульнарэволюцыйным уздымам, водгукі якога трапляюць і на Беларусь, гдзе таксама сярод беларускае здэнацыяналізаванае інтэлігенцыі будзіцца пачуцьцё абавязку барацьбы з царызмам; аднак беларускае пытаньне парушалася патолькі, паколькі гэтага вымагалі рэвалюцыйныя пляны. Ці інакш кажучы, беларускі адраджэнскі рух дадзенае пары ня быў яшчэ самастойным сам для сябе рухам, а зьяўляўся як пабочнае толькі пытаньне, уходзячае ў рамкі дзейнасьці агульнарэволюцыйнае хвалі.

З другога боку вякамі прыгнечаны беларускі народ быў яшчэ на вельмі нізкай ступені нацыянальнага ўсьведамленьня, каб мог ужо ставіць выразна тыя ці іншыя дамаганьні. Над Беларусьсю панавалі яшчэ неператожна сьляды рабскае няволі і ўсякія робленыя дасюль спробы абудзіць да творчага жыцьця гэты народ, праходзілі амаль бяз ніякага водгаласу.

Каб усьведаміць і абудзіць гэты народ, распаліць у яго заспанай душы пачуцьцё людзкае вартасьці і яго абавязак на самаадраджэньне, патрэба было самаахвярных і гігантычных высілкаў, патрэба было магутнае веры, каб ня пасьці пад агульным адпорам і незразуменьнем.

Вось-жа гэтае апошняе і даканаў Іван Луцкевіч, які на працягу ўсяго свайго жыцьця вёў упартую барацьбу за вызваленьне і адбудаваньне Беларусі.

На гэтым месцы, дзеля тэхнічных прычын немагчыма хоць-бы ў кароценькім нарысе даць поўнасьцю абраз дзейнасьці Івана Луцкевіча і яго заслуг, паложаных для беларускага народу, а прыдзецца аграні́чыцца толькі агульным аглядам.

Першае, што адразу кідаецца ў вочы, гэта ёсьць вельмі раньняе выступленьне Івана Луцкевіча на грамадзкую арэну. Ужо будучы вучням малодшых клясаў гімназіі ў Лібаве, куды паступіў у 1890 г. калі меў усяго 13—14 гадоў, пачынае ясна сабе ўсьвядамляць няўдзячны лёс беларускага народу і сьвяты абавязак працаваць для яго адраджэньня. У душы маладога хлопца снуюцца ўжо выразныя пляны дзейнасьці, дасьпявае яго народна-грамадзкі кругазор. Асновы для сваіх мрояў знаходзіў у сьветлай мінуўшчыне беларускага народу, якою пачынае ўжо цікавіцца з трэцяе клясы гімназіі.

У 1897 годзе, пераехаўшы ў Менскую Гімназію, для Івана Луцкевіча адчыняюцца шырэйшыя кругазоры грамадзкае дзейнасьці. Ён дакладна разьвівае свой сьветапагляд і канчальна ўсьведамляе, што адзіным ягоным абавязкам ёсьць самаахвярная праца над адраджэньнем беларускага народу. І ўжо будучы ў 1902 г. ў Пецярбурзе, куды пераехаў дзеля ўнівэрсытэцкіх студыяў, Іван Луцкевіч гуртуе каля сябе беларускую інтэлігенцыю, пераважна студэнскую моладзь, і ўжо з тых часоў **становіцца павадыром усяго беларускага руху.**

Грамадзкая дзеяльнасьць Івана Луцкевіча ад самага пачатку мела характар востра рэвалюцыйны, аднак, ня ў прыклад іншым, на першым мейсцы ў яго заўсёды стаяла беларускае пытаньне ўва ўсей сваей паўнаце. Вось у гэтым і крыецца адна з ягоных несьмяротных заслугаў калі ён першы ўсьведаміў сабе і паказаў на дзеле, што справа адраджэньня Беларусі ня ёсьць адным з рэволюцыйных пытаньняў, як гэта ўважалі іншыя, а што ўсебаковае **адраджэньне Беларусі — культурнае, гаспадарчае і палітычнае ёсьць справай самой для сябе**, як найвялікшы абавязак беларускага народу.

Будучы ў Пецярбурзе, ён у 1902 г. закладае „Беларускі Кружок Народнае Асьветы“, які палажыў першыя падваліны для беларускай выдавецкай дзейнасьці. Стараньнямі кружка арганізуецца ў хуткім часе выдавецтва літаграфічнае аднаднёўкі „Калядная Пісанка“, ды падгатаўляюцца да друку пасьмертныя творы Янкі Лучыны (Няслухоўскага), якія і выдаюцца ў 1903 г. як зборнік „Вязанка“. У наступным-жа 1903 г. Іван Луцкевіч сваей няўтомнай працаю дае беларускаму народу несьмяротны гістарычны здабытак — ён арганізуе першую беларускую палітычную партыю п. н. **„Беларуская Рэвалюцыйная Грамада“**, якая ад самага пачатку свайго існаваньня становіцца галоўным цэнтрам усяго беларускага руху.

Іван Луцкевіч, дзеля большага пасьпеху дзейнасьці на беларускай ніве, стараецца ўваходзіць у цесныя зносіны з іншымі рэволюцыйнымі згуртаваньнямі. Наагул трэба адзначыць, што ён у сваей дзейнасьці быў вельмі далёкім ад вузкага партыйніцтва, а стоячы на вышыні сваіх заданьняў, пры кожнай магчымасьці шукаў цеснае сувязі з усімі іншымі, каб такім спосабам абыймаць новыя і што раз новыя кругазоры.

Будучы ў 1904 г. у Вене, куды ён выехаў дзеля дапаўненьня сваіх археолёгічных студыяў, стараецца выкарыстаць і гэты мамэнт для беларускай справы. Ён як у Вене, так і ў паваротнай падарожы праз Львоў стыкаецца з Украінцамі, між іншым з мітрапалітам Шэптыцкім, з якім навязвае цесную сувязь. У Вене друкуе цэлы рад сваіх працаў аб Беларусах у чужых часопісях, пераважна нямецкіх.

У 1905 годзе Іван Луцкевіч, як прызнаны ўсімі павадыр беларускага адраджэнскага руху, едзе на зьезд прадстаўнікоў соцыялістычных партыяў у Фінляндыю, гдзе навязвае — між іншым сувязь з Ірляндцамі. Гэты факт мае для нас таксама аграмаднае гістарычнае значэньне, **як першае выступленьне Беларусаў на міжнароднай арэне.**

Першыя пачынаньні Івана Луцкевіча і яго аднадумцаў хутка знаходзілі вялікае прызнаньне сярод беларускага народу. Дзейнасьць гэтая вяла да рашучай барацьбы з царызмам і адначасна, як канчальны ідэал, мела на мэце ўсестароньняе адраджэньне Беларусі. Іван Луцкевіч, ня ў прыклад іншым, моцна верыў, што народ беларускі мае ў сабе затоеную іскру творчага жыцьця. Гарачыя прызывы, кіданыя Іванам Луцкевічам ня былі ўжо чужымі для беларускага народу. Беларускі народ падчас рэволюцыі 1905 г. магутнаю хваляю выступіў на барацьбу за волю. У гэты час агульнарэволюцыйнага ўздыму Іван Луцкевіч працуе бяз воддыху.

Ён трапляе ў розныя куткі Беларусі, у вёскі і гарады, і ўсюды сваімі сьмелымі і гарачымі прамовамі пакідае незацёртае ўражаньне.

У пачатку 1906 г., з прычыны перасьледаваньня ўладаў, Іван Луцкевіч пераяжджае з Менску ў Вільню, гдзе пражывае ўвесь час нелегальна. Разам з ім пераносіцца сюды і цэнтр беларускага адраджэнскага руху. Трэба адзначыць, што ўжо шмат раней побач з Іванам Луцкевічам працуе на ніве беларускага адраджэньня цэлы рад іншых адданых справе людзей. Першага таварыша ў працы мае Іван Луцкевіч у асобе свайго малодшага брата Антона. З іншых працуючых супольна з Іванам Луцкевічам людзей, трэба адзначыць В. Івανоўскага, А. Уласава, Цётку, А. Бурбіса, К. Каганца, А. Трэпку, Ф. Стэцкевіча і многа іншых, якія аддалі вялікія ўслугі ў адраджэнскай працы.

Тут у Вільні пачынаецца новы пэрыяд дзейнасьці Івана Луцкевіча. У першую чаргу ставіць сваей задачай прыцягнуць да беларускага руху шырэйшыя рады моладзі. Яму ўдаецца зрабіць вялікі ўплыў на вучняў Праваслаўнае Духоўнае Сэмінарыі і хіміка-тэхнічнай школы, з пасярод якіх многа потым аддалі вялікія ўслугі ў беларускім адраджэньні.

Хаця рэволюцыя 1905 г. не асягнула сваіх мэтаў, то аднак прынесла пэўныя палёгкі для народаў Расеі, у тым ліку і для Беларусаў. Галоўнаю з іх было скасаваньне забароны беларускага друку, што стараецца і выкарыстаць Іван Луцкевіч. І вось цяпер побач з яго першымі несьмяротнымі заваяваньнямі для беларускага народу, як закладзіны першага беларускае палітычнае арганізацыі і першае выступленьня на міжнародным грунце, ён прыносіць яшчэ новую гістарыч-

ную здабычу, ня менш важную ад папярэдніх. Ён зарганізаваўшы адпаведныя сілы, уласнымі стараньнямі і коштамі прыступае да выданьня **першае легальнае беларускае газэты „Нашае Долі,“** якая ў хуткім часе замяняецца „Нашай Нівай“ і зьяўляецца адзіным найбольшым цэнтрам беларускага адраджэнскага руху.

З далейшых важнейшых мамэнтаў дзейнасьці Івана Луцкевіча будзе яго чынны ўдзел у ўсеславянскім зьезьдзе паступовага студэнства ў Празе Чэскай у 1908 г., куды ён едзе нелегальна. Тут цьвёрда ён перад прадстаўнікамі ўсіх славянскіх народаў даказвае, што беларускі народ, ня менш ад іншых, мае поўнае права на самастойнае нацыянальнае істнаваньне.

Яшчэ будучы вучням трэцяе клясы гімназіі, Іван Луцкевіч горача цікавіўся памяткамі нашай мінуўшчыны і за свае скромныя грошы зьбіраў розныя старынныя рэчы. Пасьля, будучы вучоным архэолёгам, ён не пакідае сваей навуковай дзейнасьці, а з кожным годам папаўняе сваю калекцыю ўсё што раз новымі цэннасьцямі. Часта аднак з болям сэрца змушаны быў прадаваць некаторыя з сабраных памятак, каб за выручаныя грошы мець магчымасьць вясьці культурную і арганізацыйную работу. Усе цэнныя зборы Івана Луцкевіча, якім ён пасьвячаў свой час, вольны ад грамадзкае работы, зьяўляюцца сяньня экспанатамі Беларускага музэю ў Вільні, яго-ж імям celназванага.

Змораны бязупыннаю працаю, будучы часта прымушаным гібець у холадзе і ў голадзе, Іван Луцкевіч што раз больш пачынае адчуваць у сабе зачаткі сухотаў, якія ў хуткасьці мелі прывесьці яго да магілы. Аднак кепскі стан здароўя не паўстрымоўвае яго ад працы.

У 1915 годзе Вільню займаюць Немцы. Для Івана Луцкевіча настуліў новы пэрыяд дзейнасьці, гэтым разам апошні...

Ён дакладна цяпер усьвядамляе, што ў настаўшай ваеннай завірусе толькі супольная лучнасьць усіх нацыянальнасьцяў нашага краю можа проціўставіцца дэструкцыйным плянам нямецкае ўлады, і з гэтаю мэтаю прыступае да шырокай аб‘яднаўчай акцыі на віленскім грунце. Ён энэргічна працуе над утварэньнем Рады места Вільні, а потым Віленска-Ковенскага Абыватэльскага Комітэту. І хоць гэтыя арганізацыі хутка развальваюцца, ён аднак ня траціць надзеі і працуе над утварэньнем міжнацыянальнай краёвай арганізацыі „Конфэдарацыі Вялікага Князьства Літоўскага“, якая таксама хутка разваліваецца, дзякуючы становішчу прадстаўнікоў літоўскага грамадзянства. Раўналежна з гэтым Іван Луцкевіч прымае чынны ўдзел у беларускай школьнай акцыі, з яго-ж ініцыятывы паўстаюць Беларускія Вучыцельскія Курсы, на каторых ён сам выкладаець пазнаньне роднага краю. Побач з тварэньнем што раз новых беларускіх арганізацыяў, ён падае ініцыятыву аб стварэньні Беларускага Народнага Камітэту і бярэ галоўны ўдзел у закладзінах у 1916 г. „Беларускага Клюбу“, якога зьяўляецца старшынёй. З яго-ж ініцыятывы паўстае і кіраванае ім Беларускае Навуковае Т-ва.

У мамэнт нямецкае акупацыі, калі ня гледзячы на нязвычайна цяжкія варункі жыцьця народу, беларуская справа з кожным днём ажыўлялася, калі пад уплывам ваеннае завірухі ажывала і абадзёры-

валася народная псыхіка, Іван Луцкевіч кладзе апошнія высілкі над ажыцьцяўленьнем тых думак, якія дасюль былі толькі галоўным імпульсам ягонае дзейнасьці — **думак аб незалежнасьці Беларусі.**

Цікава адзначыць, што Іван Луцкевіч у сваіх палітычных поглядах быў вялікім прапагатарам беларуска-літоўскае злучнасьці, так у паасобных мамэнтах сваей дзейнасьці, ях і ў канчальных імкненьнях. Ён тварыў сьветлыя пляны аб адбудаваньні старой беларуска-літоўскай дзяржавы ў форме Вялікага Князьства Літоўскага. Гэтыя-ж думкі праводзіць ён і на зьедзе народаў у Лёзаньне ў 1916 г., куды быў выдэлегаваны як прадстаўнік беларускага народу.



Іван Луцкевіч

Калі ў 1917 г. немцы стварылі Літоўскую Тарыбу на крыўдных варунках для Беларусаў, Іван Луцкевіч востра пратэстуе супроць гэтага гвалту, кідае ініцыятыву стварэньня свайго нацыянальнага прадстаўніцтва. З гэтаю мэтаю ў студзені 1918 году зьбіраецца ў Вільні Беларуская конфэрэнцыя, якая выбрала Івана Луцкевіча ў склад Беларускай Рады, галоўнага нацыянальнага прадстаўніцтва Беларусаў.

Як прадстаўнік гэтае Рады ён з чатырма таварышамі едзе ў Менск, гдзе бярэ вельмі чынны ўдзел у зьдзейсьненьні сьвятых яго ідэалаў — у Абвешчаньні Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 25

сакавіка 1918 г. **Незалэжнасьці** Беларусі. Гэты мамэнт быў найвялікшым шчасьцем у жыцьці Івана Луцкевіча і ён вярнуўшыся ў Вільню ды прачуваючы недалёкую сьмерць ужо радасна гаворыць, што „цяпер мы, старыя работнікі беларускія, можым спакойна паміраць: ёсьць каму замяніць нас у працы.“

І запраўды прачуваў ужо няўтомны змагар, што дні ягоныя палічаны, бо задоўжаная хвароба што раз больш надрывала ягоныя сілы. Аднак ён не зважае на гэта і вытрывала працуе з тым-жа захапленьнем, як дагэтуль.

Ходам палітычных падзеяў сытуацыя крыху зьмяняецца на карысьць Беларусаў. Літвіны ўжо між іншым, замест аднаго, даюць Беларусам шэсьць мейсцаў у Тарыбе і ствараюць Міністэрства Беларускіх Спраў пры Літоўскім Урадзе.

Беларуская Рада зьбіраецца пад кіраўніцтвам І Луцкевіча і дэлегуе сваіх прадстаўнікоў у Тарыбу, між іншым Ів. Луцкевіча. Сярод Беларусаў паўстае ажыўленьне, кіпіць работа, душою якой быў увесь час Іван Луцкевіч, які ў гэтыя мамэнты хворы зрываўся з ложка, каб бегчы і працаваць. Беларуская Рада прыступае да шырокага супрацоўніцтва з Літвінамі і заяўляе, што ўважае гэты мамэнт за пачатак супольнага сужыцьця двух братніх народаў. Аднак спадзяваньні Беларусаў не апраўдаліся, Літвіны натолькі шчыра адносіліся да Беларусаў, наколькі вымагалі гэтага іх дыплёматычныя абставіны. Дзеля гэтага Іван Луцкевіч разам з іншымі дэманстрацыйна пакідае Тарыбу.

Перад самаю сьмерцьцю Іван Луцкевіч даў для беларускага народу яшчэ адну няўміраючаю заслугу — ён астаткамі сіл пры супрацоўніцтве іншых Беларусаў, закладае **першую Беларускую Гімназію ў Вільні**. Паміма цяжкага і бязнадзейнага стану здароўя, ён работы не пакідае. Лежучы ў ложку ён робіць цэлы рад розных нарадаў з беларускім грамадзянствам, ніхто ня прыступаў да ніякае працы не парадзіўшыся з ім.

У гэты мамэнт у Вільню прыходзяць бальшавікі і зьяўляюцца ў кватэру Івана Луцкевіча з мэтаю яго арыштаваць, толькі пабачыўшы ягоны стан, пакідаюць яго. Змучанага працаю і безнадзейнаю хваробаю Івана Луцкевіча блізкія таварышы вывозяць у Закапанае, гдзе 20 жніўня 1919 г. адышоў на той сьвет...

* * *

Вось перад намі жменька фактаў з жыцьця і дзейнасьці Івана Луцкевіча. Зразумела, вылучна на падстве іх ня можна ацаніць яго заслугаў, паложаных для беларускага народу, бо ацэнка выпала-б крыўдная. Справа ў тым, што яшчэ дакладна не апрацавана спэцыяльнымі дасьледчыкамі ягоная праца, яшчэ ніхто ня ўнікнуў з навуковай сьцісласьцю і поўным зразуменьнем у тую эпоху, у якой жыў і працаваў Іван Луцкевіч.

Аднак і гэтая жменька фактаў гаворыць сама за сябе і прыводзіць нас сяньня, у часы агульнага застою беларускай грамадзкай

працы, да тае думкі, што ўсё тое, што перадаў у спадчыне для бебеларускага народу Іван Луцкевіч, ёсьць найбольшай зарукай на яго лепшую будучыню. Іван Луцкевіч вельмі стойка вытрываў на сваім становішчы павадыра беларускага адраджэнскага руху, які самаахвярна распачатую, яшчэ на школьнай лаве працу вёў бяз ніякага перарыву аж да самае, хоць прадчаснае, магілы. Найвышэйшай ідэяй у жыцьці і дзейнасьці ягонай была Беларусь ува ўсей сваей паўнаце, а ягоным адзіным сьвятым абавязкам — няўтомнае змаганьне за поўнае яе адраджэньне і вызваленьне, за яе ўласны дзяржаўны быт. І мы сяньня, адзначаючы дзесятыя ўгодкі ягонае з намі разлукі, можым толькі пацьвердзіць словы аўтара кніжачкі п. н. „Іван Луцкевіч, у першыя ўгодкі сьмерці яго“, што **„гісторыя сучаснага беларускага руху — гэта гісторыя жыцьця Івана Луцкевіча.“**

---

* * *

З шумнага дымнага гораду
Сёньня на вёску я вырваўся,
Блескам чырвонага золата
Думкай ў прасторы рассыпаўся.

І разсьпяваўся прасторамі,
Неба блакітнага яснасьцю,
Хмарак каронак узорамі,
Сонца бліскучага палкасьцю.

Узяў я з пад клеці ды косаньку,
Узмахамі сыпаў, пракосамі,
Брызгам разпэрліваў росаньку,
Ціснуў нагамі сьлед босымі.

Поле радзімае зеленьню
Песьні сьпявала нязнаныя
І усьміхаліся шэраньню
Гоні ужо зааранья.

Сьветласьцю, сьпевам і краскамі
Думкі кружылі, як п‘яныя,
Казкай здавалася, казкаю,
Родная вёска, каханая.

**Аўг. Бартуль.**

# АДЗІН...

*Памяці Ів. Луцкевіча ў 10 ўгодкі Яго сьмерці.*

Ля высяў гор сьнежных забыта,
Ў далёкай зямлі адзінока,
Ад родных старонак далёка
Наш Волат зьлёг — сьмерці здабытам...

Ня плачуць над ім там тужліва
Бярозак радзімых галінкі,
Магіл ня крывавяць калінкі,
Ні сонцавых іскрын разьлівы...

Там птушкі і нівы, і людзі
Ні песьняй, ні казкай, ні словам —
Старой яго матчынай мовай,
Ня цешуць збалелыя грудзі...

І зоры мігцяць там бяз блескаў
Чароўных, што ў высь парывалі,
Там рэчак бурлівыя хвалі
Ня знаюць размараных плескаў.

Ляжыць ён чужым там, нязнаным
Бяз братняй малітвы уздыхаў,
Бяз сьлёзкі спагадных ўскалыхаў,
Бяз памяці сьветлай, пашаны...

І душыць яму грудзь чужына
Ды пасынкам горнець нялюбым...
І рвецца ён з гэтай загубы
У свой край, дзе стогне Айчына,

Дзе ўзрос ён, змагаўся заўзята,
Дзе сьмела йшоў праўду ўзьнімаці,
Дзе сьпяць яго прадзеды, маці,
Дзе ў роднай зямельцы — заплата...

Ля высяў гор сьнежных забыта,
Ў далёкай зямлі адзінока,
Ад родных старонак далёка,
Наш Волат зьлёг — сьмерці здабытам...

**С. Сарока.**

# 400-лецьце Літоўскага Статуту.

Чатыры сотні гадоў мінае ад тае пары, калі быў выданы першы пісаны зборнік законаў для Беларуска-Літоўскай дзяржавы. З нагоды гэтакага сівога, культурнага юбілею, юбілею, якім могуць пахваліцца толькі вельмі нялічныя народы, трэба здаць сабе справу, прынамсі ў галоўных рысах, на якім грунце і як паўстаў Літоўскі Статут, а такжа якое ён можа мець значэньне для сучаснага дасьледчыка — беларуса, працуючага перадусім над пазнаньнем мінуўшчыны свайго народу. Зразумелы адказ на апошняе пытаньне можа быць дадзены толькі па разгледжаньні першых двух, г. зн. таго культурнага падкладу, на якім паўстаў гэты памятнік, а так-жа і яго гісторыі. Затрымаймася дзеля гэтага над кожным з гэтых трох пытаньняў.

Працэс аб'яднаньня ўсіх беларускіх зямель пад уладаю Вялікага Князя Літоўскага закончыўся ў XV сталецьці. Беларусь, якая ўвайшла ў цэласьці ў склад Вял. Кн. Літоўскага, дапамагала яму сваімі матэрыяльнымі а перадусім культурнымі сродкамі. Гэты ўплыў беларускае культуры быў так моцны, што з першых-жа дзён свайго існаваньня Вял. Кн. Літоўскае было ўжо не літоўскай, але беларуска-літоўскай дзяржавай. Рэч у тым, што дзякуючы блізкім жыцьцёвым адносінам з Беларусьсю, Літва знаходзілася пад моцным уплывам беларускае культуры і грамадзкасьці. Гэты ўплыў адбіўся раней за ўсё на вярхох літоўскага грамадзянства. Літоўскія князі пачалі будаваць сваё князьства паводле беларускіх прыкладаў, уводзіць на Літве беларускія парадкі і ўстановы, беларускую мову як афіцыяльную і г. д. У беларускай грамадзкасьці яны мелі магчымасьць здабыць больш сіл і сродкаў дзеля ўзмацненьня сваей улады над грамадзянствам, чымся ў літоўскай. На Беларусі ўжо ўсталяваліся пэўныя і сталыя службовыя адносіны паміж князямі і іх дружынамі. Гарадзкое і вясковае насельніцтва было зьвязана з князям пэўнымі і сталымі падатковымі і рознымі іншымі павіннасьцямі. Тут-жа да паслуг князёў была і наладжаная адміністрацыя, пэўныя пасады і годнасьці, з дапамогай якіх узмацнялася князёўская ўлада над грамадзянствам. На Літве ўсё гэта мела характар чагось пачатковага і несталага, а таму зразумела, што літоўскія князі першыя апынуліся пад беларускім уплывам, з іх брала прыклад літоўская арыстакрацыя, вайскоўцы, земляўласьнікі, якія атрымалі найменьне баяр. Знаходзіліся пад уплывам беларускае культуры і нават асыміляваліся з беларускім племям і народныя гушчы Літвы, асабліва там, дзе ў гэтыя гушчы пранікала беларускае насельніцтва. Як вынік гэтага тэрыторыя беларускага племя павялічывалася ў сваіх памерах на кошт асноўнае літоўскае тэрыторыі. Беларусызаваньне Літвы дапамагала ў значнай меры далейшаму пашырэньню яе дзяржаўнае тэрыторыі на кошт іншых беларускіх зямель. Справа ішла цяпер аб далучэньні да племя ня толькі ня чужога, але амаль свайго, прынамсі ў вышэйшых сваіх колах і ў кожным выпадку не варожага да беларускага ўкладу жыцьця. Характар аб'яднаньня (амаль што дабра-

вольны) адбіўся і на ўнутранай будове новае Беларуска-Літоўскае дзяржавы. Землі і князьствы, што далучаліся, у большасьці выпадкаў не трацілі асаблівасьцяў свайго быту. У некаторых князьствах заставаліся даўнейшыя князі, якія і далей разам з баярамі кіравалі мясцовым грамадзянствам, як васалы вялікага князя, абавязаныя яму вайсковай службай і падаткамі.

Гэтыя кароткія ўвагі даюць нам права цьвердзіць, што беларуская культура ў пачатку XVI стагодзьдзя займала дамінуючае становішча і амаль што не спатыкала ніякіх конкурэнтаў, бо польсія ўплывы, якія пранікалі ў тым часе ў Бел.-Літоўскую дзяржаву, былі яшчэ вельмі слабыя. Паміма аднак-жа даволі высокага культурнага роўня, у Бел.-Літоўскай дзяржаве, на пачатку яе існаваньня, ня было пісаных законаў. Усялякага-ж роду праваадносіны былі рэгуляваны правам звычаёвым. Нормы права звычаёвага адносна сялян стасаваў г. зв. „копны“ суд. (Квэстыя копных судоў вельмі цікавая і мала яшчэ высьветляная ў праўнай літэратуры). Споркі паміж сялянамі і іх валадырамі судзілі апошнія. Баярства-ж (шляхту) судзілі князі і вялікія магнаты, якім князі давалі прывілеі і права чыніць суд. Зразумела, што адсутнасьць пісаных законаў даводзіла да надужыцьцяў з боку тых, якія мелі права судзіць іншых. Вялікія князі не праходзілі моўчкі каля гэтага факту і ад часу да часу выдавалі розные граматы, якімі стараліся завясьці лад у галіне судаўніцтва. У гэтых граматах вялікія князі ўрачыста абавязываліся перад усім насяленьнем краю дзяржаць сваё слова, гаспадараваць і судзіць згодна з тымі прывілеямі і правамі, якія паасобным станам былі дадзены раней. Аднак-жа і гэта не ўсувала надужыцьцяў, асабліва з боку вялікіх магнатаў у адносінах да шляхты. Шляхоцкая маса, якая паносіла для дзяржавы вялікія ахвяры, даючы грошы і войска, усё часьцей і часьцей пачынала дамагацца ўстанаўленьня пісанага права, дакладнага вызначэньня правоў і абавязкаў усіх грамадзян. І вось пад моцным уплывам гэтых дамаганьняў вялікі князь Жыгімонт на Віленскім Сойме ў 1522 г. обвяшчае ўстанавіць для ўсяго Вял. Кн. Літоўскага адно пісанае права для ўсіх яго станаў. У сваей грамаце Жыгімонт кажа, што: „Дагэтуль у нашым Вял. Кн. Літоўскім суды адбываліся не на падставе пісанага права, а справядлівасьць выконывалася згодна з звычаямі ды паводле разуменьня і сумленьня кожнага судзьдзі“, — а далей — „паслухаўшы частых зваротаў шляхты, загадалі мы ўстанавіць адзінае пісанае права і закон, напісаны ў згодзе з ведамымі пастановамі і граматамі, істнуючымі ўжо на пісьме“. Сем аднак-жа гадоў прайшло ад гэнае запавядзі вялікага князя, пакуль былі пераможаны ўсе труднасьці, зьвязаныя з кадыфікацыяй права і выданы Літоўскі Статут (17-30.XI. 1529 г.). Выданьне першага пісанага зборніка законаў для Бел.-Літоўскага гаспадарства было гэтулькі важным гістарычным здарэньнем, што беларускія летапісцы прызналі патрэбным запісаць аб ім у сваіх летапісях. Першы Літоўскі Статут, створаны сіламі беларускіх законьнікаў быў напісаны ў беларускай мове і толькі праз год быў перакладзены на лацінскую а цераз тры — на польскую. Ня зьдзейсьнілася аднак-жа запаведзь князёўскае граматы—

надрукаваць статут у вялікай лічбе экзэмпляраў, хаця ў Вільні была ўжо закладзена Скарынай беларуская друкарня. Стары Літоўскі Статут, спаўняючы дамаганьні беларускае шляхты, каб былі ўстаноўлены пісаныя законы, не здаволіў аднак-жа яе імкненьняў да роўнасьці з вышэйшымі станамі — духавенствам і магнатамі. І вось —пры Жыгімонце-Аўгусьце, пад націскам шляхты ён быў перагледжаны і прыняты ў новай рэдакцыі ў 1566 г. з пашырэньнем шляхоцкіх правоў — гэта другі Статут. Але праз 20 гадоў ён яшчэ раз быў перагледжаны; гэткім чынам склаўся трэці Статут, які быў прыняты на Варшаўскім элекцыйным Сойме ў 1588 г. У гэтым-жа годзе па загаду канцлера Льва Сапегі і пад яго асабістым наглядам трэці Статут быў надрукаваны ў беларускай мове ў Вільні, у друкарні Мамонічаў і толькі ў 1616 годзе пераложаны на польскую мову, калі беларуская мова на Беларусі пачала пакрыху траціць сваё агульна-дзяржаўнае значэньне і выціскацца польскай. З далейшых дзеяў Літоўскага Статуту трэба зацеміць той факт, што калі пасьля падзелаў Польшчы Беларусь адышла да Расеі, то быў зроблены поўны пераклад Літоўскага Статуту 1588 году з тагочаснае беларускае мовы на сучасную расейскую і надрукаваны ў 1811 годзе. Літоўскі Статут абавязываў на Беларусі аж да 1840 году.

Калі мы зробім параўнаньне памянёных трох рэдакцыяў Л. Статуту з боку мовы, то лёгка заўважым, што стары рукапісны Статут 1529 г. мае больш вытрыманую беларускую мову, а друкованая рэдакцыя Статуту 1588 г. больш багата полёнізмамі. Гэта сьведчыць аб тым, як польская мова паступова пачынала браць верх над беларускай ужо ад канца XVI в.

Кожная з трох рэдакцыяў Статуту дзеліцца на разьдзелы, а кожны разьдзел на артыкулы, колькасьць якіх не аднакава ўва ўсіх трох Статутах, бо кожная новая рэдакцыя замыкала ў сабе пэўныя зьмены, найчасьцей дадаткі а часамі і скарочаньні. Гэткім чынам ужо ў першым артыкуле 1-га разьдзелу, дзе гаворыцца аб тым, што выданы Статут ёсьць абавязкавым для ўсіх грамадзян, пачаўшы ад вышшага стану аж да ніжэйшага, у выданьні 1588 г. зроблены важны дадатак, які расьцягаваў Літоўскі Статут і на чужаземцаў. Прыкладам скарачэньня артыкулаў у пазьнейшых рэдакцыях можа быць характэрны выпадак, які меў месца ў адносінах да жыдоў і іх становішча на Беларусі. Гэтак, арт. 4, разьдз. XII. Статуту 1566 г. „о ношенью жидовском“ падрабязна разглядае пытаньне аб жыдоўскай вопратцы: забараняе насіць жыдом каштоўныя шаты, золата і серабро, а кажа, што „уберъ“ іх павінен быць „значный“, каб можна было адрозьніць хрысьціяніна ад жыда. У апошняй-жа рэдакцыі 1588 г. гэты артыкул скарочаны, але затое дабаўлены іншыя драбніцы, якія дазваляюць ужо жыдом насіць пярсьцёнкі. Наагул, трэба сказаць, што побач з тым, як мяняліся звычаі, сацыяльныя погляды, міжнародныя адносіны, — няўхільна і зусім натуральна павінны былі зьмяняцца адпаведныя артыкулы законаў. Гэтак, напрыклад, стары Статут 1529 г. ў адносінах да шляхты даваў вялікаму князю значныя правы, а шляхта, дабіваючыся ўсё большых і большых правоў, кожны раз вымага-

ла новых прывілеяў і большай незалежнасьці ад князёўскай улады; з гэтае прычыны прыходзілася рабіць зьмены ў законах, даваць больш падрабязную рэглямэнтацыю, або выкідаць з законаў тыя ці іншыя пункты.

Па гэтых кароткіх нарысах культурнага падкладу і гісторыі Літоўскага Статуту, затрымаймося цапер над пытаньнем, якое значэньне мае для нас Літоўскі Статут і над якімі мамэнтамі ў сваіх досьледах над ім павінен затрымацца перадусім беларус-гісторык, праўнік ці філёлёг. Вось-жа Літоўскі Статут як найвялікшы гістарычны памятнік Літоўска-Беларускае дзяржавы, зьяўляецца перадусім памятнікам нашае мінуўшчыны і можа служыць нявычарпанай крыніцай да ўсебаковага яе пазнаньня. Што гэта памятнік нашае прошласьці — гэта не падлягае сумліву. Мы бачылі ўжо вышэй, што ў г. зв. Вялікім Княстве Літоўскім, асабліва-ж перад выданьнем першага Статуту, панавала беларуская культура. Зразумела, беларускасьці Вялікага Княства Літоўскага ня трэба мадэрнізаваць, ня трэба нашымі сучаснымі паняцьцямі мерыць тагачаснага жыцьця як і нашых сяньняшніх поглядаў прыпісываць тагачасным людзям. Дзеля гэтага, ня можна напр. сказаць, што паняцьце нацыянальнасьці разумелася ў тыя сівыя часы так, як мы разумеем яго сяньня, ды і гэтага нам ня трэба. Паняцьце народнасьці, як вельмі зложанае, скрысталізавалася больш менш выразна толькі ў пачатку XIX стагодзьдзя. І дзеля гэтага, не пераносячы яго ў тыя далёкія часы, мы аднак-жа, можам задаволіцца тым, што наш народ у сваей гісторыі, падобна іншым, меў зусім выразна адзначанае пачуцьцё свае адасобленнасьці ад суседзяў, разьвітае ў яго можа больш, чымся напрыклад у ўсходніх маскоўцаў. Досыць прыпомніць, як лёгка далучаліся паасобныя беларускія княства да Літ.-Бел. дзяржавы, з аднаго боку і тыя крывавыя падбоі, шляхам якіх стваралася маскоўскае царства з другога, каб мець права сказаць, што якраз на ўсходзе, сярод маскоўскіх плямёнаў пачуцьцё кроўнасьці і адасобленнасьці іх як цэласьці ў вонках, адыгрывалі другарадную ролю ў параўнаньні з „крывёй і зялезам". Меў наш народ пачуцьцё гэнае адасобленнасьці і ў адносінах да сваіх заходніх суседзяў-Палякоў. Досыць адсьвежыць сабе ў памяці ўсе вуніі, каб пераканацца, якіх скамплікаваных дыплёматычных высілкаў вымагалася ад Палякаў, каб утрымаць адзінасьць Польска-Літ.-Беларускае дзяржавы.

Адным словам, так у часе выданьня першага Статуту, як і раней, а нават амаль да XVIII сталецьця, мы можам сьмела казаць аб беларускай шляхце, месьце і сялянстве, з якіх асабліва першая мела добра выробленую, сьвядомую беларускую ідэолёгію. Можам казаць аб беларускім народзе як цэласьці. Вось-жа Літ. Статут зьяўляючыся прадуктам яго духовае працы ёсьць памятнікам нашае прошласьці і багатай крыніцай да пазнаньня філёзофіі, традыцыі, права і наагул культурнага роўня народу тагачаснае эпохі. У ім як у люстры мы знойдзем адбіцьцё Старой Беларусі, знойдзем і яе гісторыю. А нават павярхоўнае абзнаямленьне з памятнікамі нашае прошласьці, з якіх пачэснае месца займае Літоўскі Статут, пераканае нас

аб адносна высокім роўні беларускае культуры ў XVI ст., культуры, якая не загінула — мы яе бачым як інтэгральную частку псыхікі, сьветагляду нават у тае шляхты, якую Беларусь пасьля страціла. Шляхціц з Беларусі і Польшчы — гэта-ж два зусім розныя тыпы. Маючы на ўвазе гэтае высокае значэньне Літоўскага Статуту, кожны дасьледчык беларус, праўнік, гісторык, ці філёлёг знойдзе тут ўдзячнае поле для свае працы. Праца гэта аблягчаецца яшчэ і тым, што Літ. Статут становіць наш памятнік, да якога найменш нахінаецца прэтэнсыяў з боку шмат лікавых дасьледчыкаў палякаў і маскоўцаў. Усе лічаць яго „Літоўскім", тымчасам фактам нязбітым зьяўляецца тое, што назоў „Літоўскі", які вельмі часта адносіцца да тых далёкіх часоў, азначае ні больш ні менш, як голы гук, без якога-небудзь рэальнага, праўдзіва літоўскага зьместу.

Досьледы над Л. Статутам з пункту гледжаньня юрыдачнага скрысталізуюць нам выразьней праўныя паняцьці, характар праваадносін і асаблівасьці даўнейшага судаўніцтва на Беларусі. Выходзячы-ж з тэзы, што права зьяўляецца праявам агульнае псыхікі народу, разультаты гэтых досьледаў памогуць нам высьветліць гэтую псыхіку, пазнаньне якой кіне ўжо сьвятло на іншыя галіны навуковых шуканьняў і паможа нам няраз дасканальна зарыентавацца ў цёмных мейсцах нашае гісторыі.

Вывучэньне Л. Статуту з філёлёгічнага пункту гледжаньня паможа нам сконструаваць абраз разьвіцьця нашае мовы і пазнаць яе асаблівасьці. Досьледы-ж над Л. Статутам з гэтых пунктаў гледжаньня, ведзяныя ў шырэйшым маштабе — на фоне параўнаньня яго з юрыдычнымі памятнікамі іншых народаў, дазволяць нам выкрыць узаемныя іх на сябе ўплывы з аднаго боку, а з другога — дадуць магчымасьць аддзяліць самастойную частку Л. Статуту, выкрыцьцё якой прычыніцца да сконстатаваньня самабытнасьці нашае культуры, — факту, які для нас зьяўляецца ясным і, які аднак-жа вельмі часта квэстыёнуецца чужынцамі, што дае ім магчымасьць пытацца нас аб нашым гістарычным пашпарце. Рэч зусім ясная, што ў сям'і цывілізаваных народаў бяз гэтага пашпарту амаль немагчыма дабіцца раўнапраўнасьці. Вось-жа досьледы над памятнікамі нашае мінуўшчыны, сконцэнтраваныя каля асноўнае тэзы самастойнасьці нашае культуры — бяз сумліву дазволяць нам упісаць у нашу гістарычную легітымацыю ясна і выразна ня толькі нашае імя і прозьвішча, але хто мы і скуль паходзім. І Літоўскі Статут акажа тут неацэненыя ўслугі. Трэба толькі веды і добрае волі. З тэй-жа хвілінай, калі гэтая тэза будзе так яснай, што нават у вачох яе праціўнікаў, усялякія закіды проці яе будуць прадстаўляцца парадаксальнымі — беларускі юрыст, гісторык і філёлёг можа лічыць сваё заданьне за больш менш споўненае.

**М. Шкелёнак.**

125393



# ІДЗЕ...

Ідзе здрадлівая... грудзі мне цісьне,
Дрэвы шапочуць так ціха,
Так ціха...
Жоўцю цалуе зялёныя лісьця
Шэрая восень так ціха,
Так ціха...
Я бачу яе лёдаватую ўсьмешку,
Я чую яе лёдаватыя песьні...
Сівер ёй марш перамогі сьпявае;
Раса спавівае зялёную сьцежку.
З каханай дзяўчынай над возерам сьветлым
Ідзем і пустое гаворым, гаворым,
А час, час ідзе няпрыкметна.
Восень надходзе, восень на дворы...
Любая, колькі хацеў-бы сказаць я...
Аднак усьмяхаемся ветліва толькі,
Дождж будзе... хмара цягне сівая...
Восень надходзе.
Срабрыстыя зоркі на небе іграюць
Алмазнымі брызгамі.
Раніца хутка, на небе сьвітае,
Зоркі падаюць сьветлыя
Нізкамі, нізкамі,
Недзе ў прасторах яны уміраюць
Разсыпаўшысь брызгамі.
Гляджу ў яе вочы. Бывайце здаровы.
Спакойна так кажацца —
Іншае ў сэрцы бунтуе.
Хоча выліцца ў словы...
На вуснах аднак замірае
І кажаш — Бывайце здаровы!
Як смутна.
Мягкімі, ліпкімі пальцамі
Восень зямлю абыймае так ціха
Жаль толькі, нязнанае гора,
Як восень зямлю, так мяне агартае.
Нядаўна быў з Ёю, здаецца, учора.
Восень цягне, час хутка мінае...
Я помню,
Як лодка на хвалях плыла памаленьку,
Быў вечар, месяц ўзыходзіў
І пахлі цудова так краскі...
Быў вечар апошні гарачага лета,
бо весень надходзіла
Ціха,

Так ціха...
Я сэрцам адчуў зразу гэта.
І сёньня дождж дробны,
Дождж надаедлівы
Звоніць па шыба
Так нудна.
А я ўспамінаю пражытыя хвілі...
Каханьне маё, каб ты знала,
Як сёньне мне смутна
Так смутна...

**Аўг. Бартуль.**



Бурлакі на возеры Браслаўскім П. Сергіевіч.

**С. Сарока.**

# Рубікон.

Лекцыя прафэсара даходзіла да канца... У салі была замярцьвелая цішыня, ня гледзячы, што была перапоўнена па берагі. Выкладаў вядомы і праслаўлены прафэсар Гісторыі. Горача захопленымі словамі, парываючым голасам, гаварыў ён аб сваім народзе, які ў найчарнейшыя дні няволі і глуму самаахвярна змагаўся з наехаўшым ворагам. Перад вачыма аўдыторыі праносіліся сібірскія тайгі, бязьлікія кібіткі везеных у дасьмертныя абняцьці катаргі, скутых, скатаваных, змагароў. Высілісь жудасныя, вечнадзеючыя віселіцы... Пранссіліся крыкі і енкі глумленых, канаючых, разьдзіраючыя ўзрыды ма-

так, жонак, дзяцей... Прафэсар, здавалася, забыўся аб сьвеце, аб аўдыторыі, што бяз слова, бяз дыху бурна дрыжала і бурлела, здавалася, даходзіў да апошніх межаў забыцьця. Але вось скончылася страшная пара няволі і зьдзеку, віхурай пранеслася — вораг няволіўшы, сам гіне! пара прабуджацца! Рваць кайданы няволі... Прабілі, прагудзелі званы, апавяшчаючыя волю і свабоду... Апошняе, крывавае змаганьне на жыцьцё і сьмерць — і народ уваскрос! Магучы спантанічны ўздых вырваўся шалёнай радасьцю, спачуваньнем сваей волі з маладых грудзей аўдыторыі. Разышоўшыся прафэсар ні на хвіліну ня спыніўся, ня гледзячы, што саля як-бы шалела, гудзела расхваляваным морам. Але вось і званок. Прафэсар закончыў і выйшаў. З сотні маладых, юнацкіх грудзей узарваліся магуча-грымотныя, нястрымана-разгойканыя зыкі вольнае песьні — вольнага народу... Распаленыя твары зіялі бязьмежным шчасьцем і радаснай гордасьцю. Уся саля заварушылася, захадзіла, загудзела... Выходзілі, то ізноў увaходзілі. Ніхто ня мог уседзіць на адным мейсцы. Толькі там, на апошняй лаўцы, закрыйшы рукамі схілены твар, сядзеў сагнуўшыся, незварушана нейкі студэнт. Рассыпаўшыяся ільняныя валасы, курчава сьціснуўшыя твар пальцы, яго застыўшая, акамянеўшая постаць білі кантрастам акружаючаму, кідаліся кожнаму ў вочы. Сьмерць мовіў, пагнала яго тут у гэнай позе! Хутка вакол яго пачалі зьбірацца грамадкі хлапцоў; перашоптываючыся тыкалі ў яго старану пальцамі і с сьмехем адыходзілі.

Лявон! Лявон!!! ці ты чуеш!? што с табой? ці ты мо' заснуў? — штурхаў яго высокі, кучаравы студэнт. Памаленьку расхінуліся акамянеўшыя пальцы, распрасталася згорбленая Лявонава постаць і грамадка акружаючых угледзіла курчава скрыўлены, сьмерцьлівай бледнасьцю пакрыты твар, гаручыя, бяздоньнем адчаю зіяючыя, васількавыя вочы. Дзіка, загнаным, выстрашаным з непрасьветных гушчаў зьверам, азірнуўся Лявон вакола. Дрыгочучы усім целам, хістаючыся моў пьяны ўстаў ён і выйшаў з салі. Нейкія халодныя, касьцістыя рукі разьдзіралі яму грудзі, схапіўшы і душачы сэрца і лёгкія. Вось... вось здавалася закрычыць — ратунку! або бразьнецца вобзем бяз дыху. Хутчэй і хутчэй пачаў шагаці ён па доўгіх калідорах, кіруючыся да выхаду.

Мокра — халоднае паветра восені дыхнула яму ў твар, у грудзі. Кастрычнікавыя касулі сонца пераміргівалісь дзіўнымі заломамі то па шыбах вокнаў, то ў блесках залатых вярхлінаў цэркваў і крыжоў. Гук вуліцы — праяжджаючыя то ўзад то ўперад і ўвесь час трубячыя аўтобусы, гізгі скрыпячых цяжаравых вазоў, бразг конскіх капытоў, галасы праходзячых — асьмеіваючым, глумлівым гудам адбіваўся ў вушох Лявона, пранікаючы, моручы яго наскрозь. Увесь сьвет як-бы з яго сьмяяўся, дражніў, падбухторываў да нечага шалёнага. Ня бачучы ні людзей, ні дамоў, ні разьмінаў, вуліцаў нёсься ён, ашалеўшы, да хаты...

„І народ апавясьціў сваю волю і роўнасьць усім і ўсяму сьвету“ — словы прафэсарскага захопленьня разьдзіраючым сковытам трасьлі яго нутро і бралі, пацягівалі аж да ашалу мазгавыя нэрвы,

усе яго жылы. Цела гарэла моў пад распаленым жалезам, а асохшае горла не хацела прапусьціць ні адчаго дыху, ні аднаго ўглыну паветра. Лявон і неагледзіўся, як даляцеў да хаты. Рухам асьлепленага адчыніў ён дзьверы і ўвайшоў. Зараз на парозе яго спаткала хрыплівае стагнаньне, ужо чацьверты месяц, хварэючага бацькі. Па хаце расплыўся цяжкі, душачы пах краўзоту, перамешаны з прагнілай вільгацьцю хаты. Нізкая, зчарнеўшая столь, моў нейкі легэндарны, вялізны зьвер ахапіла брудна-шэрыя сьцены з невялічкімі, тужліва пазіраючымі на сьвет, ваконцамі. Лявон, ледзь дайшоў да ложка, як кінуўся на яго зусім разьбітым. Штораз, схудзелая маці злосна паглядзела на яго і прастагнала.

—Ты ізноў вар'яцееш, ізноў дурня гуляеш! Ах, няшчасьце ты маё! Лепш-бы ты і не радзіўся маё ты, дзіцятка... І нашто мы цябе вучылі!? Што з тваёй навукі мы маем сягоньня? З голаду гібеем! Глянь на малых — адны косьці, а ня дзеці жывыя! А ён навукай займаецца! Быў-бы ты шаўцом, або столярам, то і сам не вар'яцеў-бы і мы-б былі сыты, ды напэўна і бацьцы ня прышлося-б даміраць на ложку! Лявону здавалася, што столь, увесь сьвет zaваліўся на яго і душыць, а грудзі расьпірае, як-бы нехта вялізны ў іх падзьмухівае бяз спыну паветра.

— Мама, нашто ты гэта кажаш! Ці-ж я не зарабляю? прынашу колькі магу! Скончу навуку змагу больш запрацаваць! — Запрацуеш!? пакуль гляне сонца — раса вочы выесьць! А што ты прыносіш — сьмех адзін, — а не заработак! Пакуль збудзецца тваё „змагу больш", згінем тут усе ад голаду і холаду. Мог-бы цяпер ужо зарабляць, быць чалавекам, а не займацца непатрэбным, хварэць на пана. Навука ня нам — багатым, сытым! Што каму дасьць твая навука? Хіба яшчэ адну выдумаеш Беларусь ці які іншы ражон. Прападзём, прападзём, як сабакі з блуды і ўсё праз цябе! — Мама! мама! — змагло толькі вырвацца з грудзей Лявона.

Што мама? ідзі лепш зьеш там заціркі, а то і сам хутка працягнеш ножкі, ды ня дуры мне галавы! Я табе яшчэ раз кажу, памятай Лявон да нічога добрага не давядзе цябе твая Беларусь. Зьвяжышся з бальшавікамі, навучышся рожных зладзействаў і згінеш у турме! Глядзі! я цябе тады зракуся назаўсёды... даволі і так з нас людзі сьмяюцца — такога сына маем, а з голаду дохнем! Ня гуляў-бы ад вялікага розуму ў нейкую Беларусь, а лепш пайшоў-бы пакланіўся пану Буйніцкаму, напэўна даў-бы працу! Што мы маем з таго, што ты нас і сябе зрабіў Беларусамі? Сьмех і чураньне людзей! Кожны пачаў стараніцца, ніхто памагчы няхоча — камуністы, кажуць, бальшавікі! Эх, гора ты наша, так ты нас пацешыў на старасьць! — Лявону хата замітусілася перад вачыма; кожная рэч у ей скакала, выкручывалася, біла, калола мазгі. Кроў здавалася, вось, вось лінець праз вочы, вушы, з пад скуры, з пад ногцяў пальцаў. — Мама, стагнаў бяз сувязі ўжо Лявон, ці-ж ты неразумееш... я працую... б'юся...

— Ах, каб ты раз ды забіўся, а не марыў нас гэтак болей! — пракрычала дарэшты азлосьціўшыся маці. Лявон, як шалёны выляцеў з хаты.

— Здохнем, хлеба! гнала яго, секла бізунамі, паліла вагнём, што рабіць куды дзецца? крычала ў ім яго нутро. Ці прадацца, асыпацца прадажнымі грашыма, запрапасьціцца, абы толькі пакарміць, насыціць бацьку, маці, братоў...? Ці пусьціць сабе пулю ў лоб? Крыкам звар'яценьня пытаўся сам сябе Лявон. За што мы мусім так цярпець, за чые грахі? Па што нас змусілі кідацца дзікімі зьвярамі, дзяліцца, разьбівацца, адзін аднаго праклінаці, балотам акрываць,ісьці разбродам? Чаму мы гэтак сьляпыя, ня бачым, як нас натраўляюць ворагі адзін на аднаго? Чаму ня можам расправіцца з прадажнікамі, юдамі нашых ідэяў? Чаму ня можамісьці адзінай суцэльнай грамадой, дадаваць ёй сабе сілы, натугу ў змаганьні з ворагамі, у змаганьні з цемрай народу, бацькоў? Чаму нарэшце не дапаможа нам той вялікі, усемагутны, кахаючы Бог? Чаму! Чаму! Чаму???

Канца пытаньняў ад немагчымага болю і груку мазгоў Лявон ужо ня чуў. Сьляпым ляцеў наўпрам сабе... Схамянуўся толькі тады, калі затрымала яго сілай вечна родная так ім каханая Марынка. Як заўсёды, вусны яе гарэлі вішнёва-крывавым вагнём сьвежа паложанае шмінкі.

Пудраная беласьць твару, як заўсёды, сьмяялася і крычала бязклапатлівай уцехай... І разлюбіць яе Лявон ніяк ня мог! Яе чорныя, гаручыя, то бліскучыя маланкамі, то ірдзеючыя зоркамі вачаняткі парывалі яго і змушалі яе кахаць, кахаць. Яе хвойкавая постаць, маладыя хвалюючыя грудзі, яе разгуляная грыўка, яна ўся сама, нягледзячы, што была і не такой, аб якой марыў калісь, была яму дарагой. Кахаў яе, як можа кахаць першы раз кахаючы чалавек!

Лявонка! Чакай! Вось добра, што я цябе злавіла. Слухай галубок, пойдзем да Ганулькі, яна ладзіць сяньня ў сваёй хаце танцульку, купіла патэфон і шмат прыгожых плыцін, там ёсьць і тангі рожныя і фокстроты, а да таго будзе ў яе шмат хлапцоў і дзяўчат, пойдзем Лявонка! Добра? — сакатала адным дыхам сьмяючыся, пусьценькая лялечка Марынка. Лявон задрыжэў, застагнаў глыкатам сухога, здушанага горла ды крыкнуў адурэўшы не сваім голасам.

— Ідзі, ня хочу! Ідзі, чуеш ідзі!!! Годзі! хопіць...!

— Лявон, што з табой! Ты мяне гоніш!? Абрыдла я ўжо табе, прыгледзіў сабе ўжо хіба другую! Дык ты гэтакі добры, вечнакахаючы... — сьлёзліва заенчыла Марынка ідучы за адурэўшым аканчальна Лявонам.

— Марынка ці ты ведаеш што гаворыш?! Я-ж цябе кахаю і буду кахаць! Толькі ты мусіш кінуць свае танцулькі! Быць мне таварышкай у змаганьні! Чуеш, трэба працаваць! ты чуеш, працаваць! там стогнуць... цемра душыць. — Хрыпеў страшным, замагільным голасам Лявон.

—Ідзі, працуй для другіх, рабі, а я хай гіну здаволіваючысь прыгожымі марамі, пустымі надзеямі... Ідзі... я табе ня буду перашкодай! Бывай, бывай, шчасьлівы — я ведаю, што гэта за праца для другіх, лепш кажучы для другой — Ідзі! Ідзі!!! — галасіла яна ўсьлед уцякаючаму, як падстрэленаму зьверу, Лявону.

Хопіць — стагнаў ён, асілак і той-бы зваліўся!!! — Падмогі! Падмогі ніскуль... Я благі, няўдзячны за тое, што кахаю Народ свой за тое, што я Беларус! Неба! Падмогі!!! Блутаючыся, ногі нясьлі яго ў давольна выгледжаным кірунку. Праходзячыя людзі з задзіўленьнем аглядаліся на ляцеўшага маладога студэнта ні то п'янога, ні то хворага, ні то звар'яцеўшага...

Жоўтыя лісты жаласьлівым натугам дрыгаталі і ападалі ў балота... Вецер панура завываў, пяяў, шопэнаўскім хаўтурнікам...

— „Лявон! гукнуў сустрэўшы яго нейкі студэнт, чытай „Беларускі Лісток", — што-ж браг і ты добрая штучка! І ты прадажнік і рэнэгат Беларускага Народу... Злыдні вы... далейшыя балючыя, брудзячыя белую, змучаную душу Лявона, словы падхапіў наляцеўшы віхор і папёс у сіняю высь... Каб неба і зоры жахнуліся, заплакалі, схінуўшыя перад гэтай страшной трагэдыяй маладой, абуджанай, яшчэ незагартаванай душы... Каб бязмежныя прасторы загудзелі, раскрычэлі ўсяму сьвету гэтую страшную песьню жыцьця беларускага сына! І брызнула неба сьлязьмі, дробнымі густымі сьлёзкамі спачуваньня, пачуўшы гэтую жахліваю песьню кастрычнікава віхру „Куды" — Куды? грымотамі гудзела ў мазгох Лявона. „Чужыя бацькі, каханка, таварышы — прадажнікі..." шапталі асінеўшыя, засохшыя вусны... А Вільля сумным журчэньнем так гарнула, клікала да сябе... пяяла песьню аб вечным шчасьці, свабодзе там, далёка ў сваей глыбіні... Плюсcкнула нешта нырнула цяжкое ў ваду...

„Рубікон перойдзен". Хай затоплены рэвольвэр, будзе затопленай слабасьцю душы! Я-ж нядамся! Гэтымі словамі прысягі Лявон распачынаў новы шлях... Шлях змаганьня на жыцьцё і сьмерць!

---

* * *

Час, калі трэба журыцца
Душою на сьвежых магілах
Пуста пранёсшыхся днёў.

**М. Багдановіч**

Вучуся холаду у сьцен,
Спакою ў песьнях аб нядолі,
Хачу сьцюдзёна выпіць сэнс
Людзкіх жаданьняў і патолі.

Ў вячорна-ціхую пару
Зьліваю ў цемру свае зрокі
І, быццам слухаюць і мруць,
У цэлі жудасныя змрокі.

Лукішкі 1929 **Хв. Ільляшэвіч.**

# ЖАДАНЬНЕ.

Беларусь! — краіна Сіняя...
Я люблю Цябе да сьлёз...
Вандраваць тваймі пуцінамі
Мне прызначыў пэўне лёс.

А ці можа быць што лепшае, —
Слухаць песьні каласоў,
Гаманіць з сінявым вечарам,
Прытуліўшысь ля стагоў;

І маліцца па дзіцячаму
Той журбуючай цішы,
Што навейвае жабрачыя
Думкі — казкі у душы?...
Лукішкі 1928 г.

**Хв. Ільляшэвіч.**



Залёты. П. Сергіевіч.

С. Каліна.

# Істота і значэньне поэзыі — песьні ў творчасьці Я. Купалы.

„...Божа, якая ты страшная творчасьць! Роўна вогненае мора падыходзіць з усіх старон да апутанага табою чалавека! Бязсьмертная слава такому плачу, што ня згіне ў тваіх тонах..."
(А. Цётка — Зялёнка").

Кожны чалавек, а тым больш народ у цэласьці, апрача сваіх чыста матэр'яльных імкненьняў, неабходных для ягонага істнаваньня, маець у душы сваей глыбокія духовыя вартасьці, часта нават падсьвядомыя, якія кіруюць яго вонкавамі чынамі і шукаюць свайго конкрэтнага выяўленьня. Такім чынам ствараецца перад намі нябачаны й нязнаны сьвет людзкога духа, які ці то сьвядома, ці падсьвядома праяўляецца ў ва ўсіх народных імкненьнях, а перадусім у яго мастацтве, у шырокім значэньні гэтага слова.

Дзеля гэтага праўдзівае мастацтва ёсьць у пераважнай меры ня чым іншым, як шуканьнем канкрэтнага выяўленьня ўсяго зьместу народнае душы, якое ў залежнасьці ад духа часу, прыбіраець тыя ці іншыя формы. Але з найбольш верных і безпасярэдніх выяўленьняў духовага жыцьця народу — ёсьць ягоная поэзыя, якая здольна ўлавіць усе найдрабнейшыя ўласьцівасьці народнае душы, часта крыючыяся ў падсьвядомасьці і перадаць іх у зразумелай для ўсіх, конкрэтнай форме. І хоць-бы мы ня знали таго ці іншага народу, а ведалі яго поэзыю, то больш менш яснае мелі-б уяўленьне аб тым, які гэта народ, пазналі-б яго псыхіку і ўсе ягоныя імкненьні. Згодна з гэтым, цалком зразумелы будзе часта паўтараны сказ, што той народ жыве, які мае сваю ўласную, стоячую на адпаведнай вышыні, песьню.

І беларускі народ, ужо ў дагістарычныя часы, меў сваю ўласную поэзыю, з пачатку ў форме песьняў, казак, легендаў, твораную цэлым народам, якая пераходзіла з пакаленьня ў пакаленьне і выражала ў сабе ўвесь зьмест духовага жыцьця нашага народу. Гэтая колектыўная творчасьць народу, дасканаленая вякамі, становіць у сваім зьмесьце ўсё тое, што народ адчувае, чым жыве, да чаго ўрэшце імкнецца, — адным словам увесь зьмест яго ўнутранага жыцьця. Але з другога боку, народ у сваей творчасьці можа выявіць толькі тое, што ёсьць для яго ўхопнае, што не пераходзе граніц яго сьвядомасьці. Такім чынам народная творчасьць, хоць найдакладней ілюструе ўвесь быт і характэрныя асаблівасьці дадзенага народу, нlanguagedольна аднак падняцца панад кругазор сьвядомасьці масы, выкрыць усе тайніцы яе духа, вешчым воблікам акінуць прошласьці будучыню.

Гэтае апошняе ўласьціва толькі індывідуальным прадстаўніком народу — поэтам, якія маюць прыродныя здольнасьці спасьцераганьня і вычуваньня ўсяго таго, што ёсьць для другіх недаступным. Поэтаў-жа кожнага народу з гэтакага пункту гледжаньня мусім таксама падзяліць на дзьве групы.

Першыя, гэта тыя, якія ў сваей творчасьці даюць толькі верны адбітак жыцьця народу, выяўляюць усе яго асаблівасьці і на фоне мастацкага апрацаваньня ствараюць эпопэю жыцьця народу ў ва ўсіх яго праявах.

Другую групу становяць тыя, якія побач з ахапленьнем вонкавых праяваў народнага жыцьця, сягаюць у падсьвядомасьць народу, інтуіцыйна адчуваюць найглыбейшыя тайніцы ягонае душы, ловяць і паглыбляюць масавыя імкненьні народу і даюць поўную сынтэзу яго духовага жыцьця і парываў.

Такіх поэтаў называем **народнымі геніямі**, якім, бязспрэчна, ёсьць наш Купала. Спасьцерагаўчая здольнасьць Купалы патрапіла інтуіцыйна адчуць і выкрыць усе адценьні духовага жыцьця масы і ўзяць іх за аснову сваей ідэолёгіі. Рэчаіснасьць сьведчыла ад'емна аб нейкай жыцьцёвай сіле нашага народу, адмаўляла многа надзеі на яго вызваленьне, аднак зьмест яго духовага жыцьця выказываў вялікі запас у гэтым цёмным людзе тых жыцьцёдаўчых сокаў, якія зьяўляюцца наймацнейшым задаткам на будучыню.

І вось найвялікшы задатак на жыцьцё і будучыню нашага народу ўбачыў Купала ў яго **поэзыі-песьні**, праз якую гаварыла хоць прыгнечаная вякамі, аднак прагнучая волі беларуская душа.
Дзеля гэтага Купала, як ніхто іншы ў такой меры з беларускіх песьняроў, шырока акрэсьліў у сваей творчасьці, як самую істоту поэзыі—песьні, таксама яе значэньне ў жыцьці грамадзкім народу. Загнаны й прыгнечаны беларускі народ, згубіўшы ўсякую надзею на сваё вызваленьне, часта бачым у творчасьці Купалы, як ён ажывае, прабуджаецца быццам з нейкага сну, калі пачуе бліскую к сэрцу песьню.

У вадным з сваіх вершаў п. н. „Казка аб песьні“ гаворыць Купала ў сымболічнай форме аб тым, як гібелі людзі нямаючы ўласнае песьні, выхадам якіх была толькі „маці — магіла.“ Але вось гдзесьці ў бяздоньні нябесных прастораў „сьвятляная думка лунала“, якая зьлітаваўшыся над бедным людам

„...з высі зышла к ім, як дух—яснавей,
І вольнай зьмянілася песьняй“...,

а якая адразу абдарыла той народ непераможнай сілай, бо

„Пры песельным звоне народ акрылеў,
Зарухаўся шчасьцем, свабодай,
У бітвах верх браў і свой боль адалеў,
Ня страх быў змагацца з прыродай.“

Але праз якісьці час гэты казачны народ зышоў з сваей дарогі, пачаў слабець на духу і, замест тварыць і ўзмацняць сваё ўласнае незалежнае жыцьцё, народ гэты прадаўся ў няволю чужынцам, якія

„...запрэглі народ у прыгон,
А песьню аддалі на зьдзекі...“

„Гібелі ўзноў людзі у сьпеку, ў мароз,
І долі і волі збыліся.
І страшная кара пасьцігла іх лёс.:
Народ сваей песьні забыўся.“

Народ аднак шукаў яшчэ вобмацкам шляху да лепшае долі і пасьля доўгага часу знайшоў сабе ўзноў нейдзе песьню, але гэтая песьня ўжо

„... іх душ акрыліць не магла
І к шчасьцю масьціці, гасьцінец,
Бо думка... бо песьня... чужая была...
З ярмом даў і песьню чужынец!“

Адсюль мы бачым, як несьмяротную моц надаваў Купала праўдзівай народнай поэзыі, як вялікую вызначаў ей місію ў жыцьці духовым народу.

У адноснах-жа да беларускага народу верыў Купала, што народ гэты мае ў сабе вялікую затоеную іскру жыцьця, а трэба яе толькі распаліць, ажывіць абамлелыя тоны душы народнае, а яны зьліюцца ў мілагучную сымфонію народнае песьні, якая захаваець у сабе ўсю моц паняволенага народу і будзе вясьці яго да перамогі. І запраўды, паміма таго, што народ быў пазбаўлены найменшых правоў чалавечых, зьяўляўся пакорнаю слугою моцных, — народ гэты быў вольны аднак у краіне духа, — **ён быў вольны ў песьні**, бо

„На рукі людзкія наложуць аковы,
Край стопчуць, разграбяць чужыя народы, —
У песьнях-жа родны край, родныя словы
Жылі і жывуць і жыць будуць заўсёды.“

У сваей поэмцы „Курган“ разьвівае Купала далей проблему песьні, як адзіны непарушаны задатак народнае жывучасьці, які ня ўсілах нават адабраць ворагі. Магутны князь самаўладны — бачым у поэме — бязлітасна зьдзекуецца над падданымі, усё сілен ад іх забраць, ня можа толькі нарушыць вешчага голасу народнае песьні, бо як гаворыць Гусьляр, будучы тут увасабленьнем поэзыі паняволенага народу, — што

„Гусьлям, княжа, ня пішуць законаў:
Небу справу здае сэрца, думка мая,
Сонцу, зорам, арлам толькі роўна.
Бачыш, княжа, загоны, лясы, сенажаць, —
Ім пакорны я толькі з гусьлямі.
Сілен, княжа, каваць, галаву сілен зьняць, —
Ня скуеш толькі дум ланцугамі.“

Песьня такая ёсьць заўсёды вольная, бо няволю толькі творыць сіла нізкая, якая ня можа сягнуць туды, гдзе канчаецца матэрыя, а пачынаецца жыцьцё духа. У гэтай краіне панаваньня духа няма крыўды й несправядлівасьці, а ёсьць спрадвечная жывая праўда, ніколі няўміраючая. І на кожным кроку мы пабачым у Купалы, што паводле яго, поэзыя ёсьць ня чым іншым, як толькі конкрэтным выяўленьнем гэтых духовых вартасьцяў, **выяўленьнем таго, да чаго імкнецца, чаго ня мае, а што раней ці пазьней павінен здабыць дадзены народ.**

У іншым-жа вершы п. н. „Наша песьня“ падносіць Купала ізноў да недасяжнае годнасьці беларускую песьню, якая хоць сьлёзная, хоць сумная, як і сумнае жыцьцё Беларуса, аднак свая родная:

„Хоць нуды ў табе шмат, вылівана сьлязьмі,
Дума-песьня ня хітра складаная.
Але нашая ты! недруг, спробуй вазьмі!...
Ты ня можыш быць, песьня, скаванаю.“

І густа-часта Купала ў сваэй багатай творчасьці зазначае выразна, што адзіным найбольшым нашым задаткам народнае жывучасьці і моцы ёсьць нашая песьня. Песьня гэтая здольна разбураць усё матэр'яльнае, крышыць нізкую сілу тых, якія іграюць ролю крыўдзіцеляў народу. Яна, як поўны зьмест народнага духа, ёсьць сілай найвышшай у грамадзкім жыцьці народу.

А апрача таго натура людзкая маець прыродны пацяг да красы прыгожасьці, а ненавісьць да брыдоты. І толькі людзі нізкія, паўшыя маральна ня могуць адчуваць і імкнуцца да гэтай краіны безграннічнае красы.

Дзеля гэтага песьня, як найвышэйшая праява мастацтва, маець неаграніčаныя эстэтычныя вартасьці. Яна стварaець зусім асобны сьвет адчуваньняў, авеены казачнымі мроямі, у якім увесь народны пацяг да хараства і шчасьця, побач з яго грамадзкімі імкненьнямі, знаходзіць свой найвярнейшы адбітак.

Паасобныя адзінкі народу, абдараныя іскраю Божай — поэты, здольны ўлавіць гэты падсьвядомы зьмест народнага духа, адчуць і пераліць яго ў сваю песьню. Адсюль песьняр ня творыць з нічога, не дабываець вылучна з свае ўласнае фантазіі, а ён толькі перадае ў конкрэтнай форме ўсё тое, што накіпела ў душы народу. І ў меру таго, як вечным і несьмяротным ёсьць людзкі дух, вечнай і несьмяротнай ёсьць такая песьня, яна, незалежна ад таго, хто ей даў пачатак, будзе жыць вечна, бо

„Сьмерць пяўца возьме мо' і сягоньня,
Чорнай зямелькай пакрыюць павекі:
Песьня жыць будзе, ў магіле ня ў тоне,
Блага ці добра — жыць будзе на векі!“

А той хто творыць гэтую песьню — песьняр, якога лёс абдарыў быць мастаком слова і ўладаром народнага духа, ён, побач з ахвярным і бязінтэрэсоўным служэньнем свайму народу, зьяўляецца адначасна і яго духовым павадыром, бо

„Песьняр слуга слугі усякай,
Пясьняр і цар усіх царэй!“

* * *

Вось пагляд Купалы на істоту і значэньне поэзыі ў грамадзкім жыцьці народу, якая, будучы найбольш верным і беспасярэднім голасам народнае душы і аднačасна шчырым і гарачым заклікам да тае ці іншае мэты, ёсьць найвялікшым няўміраючым скарбам кожнага народу.

І запраўды, яшчэ нават у сівую мінуўшчыну старажытныя Грэкі зразумелі й аценілі ў сваіх мітах — легендах значэньне і вартасьць праўдзівае поэзыі, якая заўсёды была крыніцаю красы і найвярнейшым голасам народнага сумленьня. Пытаньне гэтае праз паасобных мастакоў слова было часта парушанае ў літэратурнай творчасьці розных народаў, а якое так яскрава адбівалася ў песьні Гальбана з „Конрада Валенрода" Міцкевіча. Агульна-сусьветная гэта праблема ў адносінах да беларускае поэзыі знайшла, як бачым, найбольшае выяўленьне ў творчасьці Купалы, які так артыстычна патрапіў здэфініяваць істоту і вартасьць поэзыі-песьні і вельмі шырака падчыркнуць яе значэньне ў духовым жыцьці народу.

Гэтае пытаньне ў беларускай літэратурнай крытыцы да апошняга часу амаль зусім ня было парушанае. А шкода. Бо яно найбольш вартае ўвагі і навуковага апрацаваньня.



Вяселье. П. Сергіевіч.

# Хроніка.

Дзесятыя ўгодкі сьмерці Івана Луцкевіча. Беларускі Студэнскі Саюз супольна з Дырэкцыяй Беларускай гімназіі ладзіць на 17 лістапада б. г. урачыстую акадэмію з нагоды 10 угодкаў сьмерці піёнэра беларускага руху — Івана Луцкевіча. Праграма акадэміі будзе складацца з даволі багатых і апрацаваных аддзелаў.

400-лецьце „Літоўскага Статуту“. Беларускае грамадзянства ў Вільні прыгатаўляецца да сьвяткаваньня 400-лецьця першага кодэксу беларускага права — выданьня „Літоўскага Статуту“. З гэтай мэтаю стварыўся ўжо спэцыяльны камітэт сьвяткаваньня пад старшынствам гр. А. Трэпкі, у каторы таксама ўваходзіць і прадстаўнік Бел. Студ. Саюзу — кал. Ст. Станкевіч. Сьвяткаваньне праектуецца на 30 лістапада б. г. Апрача гэтага ў адзнаку так важнага мамэнту Камітэт Сьвяткаваньня намячае ў важнейшых мясцовасьцях на правінцыі наладзіць таксама сьвяткаваньні і выдаць спэцыяльную кніжку пасьвячаную „Літоўскаму Статуту“ і старадаўнаму беларускаму правадаўству наагул.

Агульны гадавы сход сяброў БСС. 26.V 1929 г. адбыўся Агульны Гадавы сход БСС. у салі галоўнагм Унівэрсытэцкага Будынку, які быў даволі „бурлівы“. Прычына, такая на гэта злажылася, было завешаньне пяцёх студэнтаў: Саковіча, Вялецкага, Хвораста, Вярбіцкага і Касяка, дзеля зламаньня салідарнасьці падчас апошніх выбараў Братняе Помачы Унівэрсытэту Сьцяпана Баторага, нягледзячы на пастанову агульнай сходкі трох саюзаў: 1) Украінскага, 2) Літоўскага, і 3) Беларускага ў справе трыманьня адзінай салідарнай лініі падчас выменёнага сходу. Было пастаноўлена дамагацца скасаваньня са статуту Братняе Помачы слова „польскай“.

Калі вышэйшая прапазыцыя, вышаўшая ад гэтых трох саюзаў падчас сходкі Б. П. не прайшла — усе сябры трох саюзаў у знак пратэсту апусьцілі дэманстрацыйна салю, апрача завешаных.

Агульны сход сяброў Б.С.С. апрабаваў пастанову завешаньня праз Урад выменёных пяцёх студэнтаў, завешываючы яшчэ на два трымэстры (апошні 1928-9 і першы 1929-30 акад. г.) галоўных правадыроў гэтае групы: Саковіча і Вялецкага у правох сяброў Саюзу, тром апошнім пастанавіў выразіць загану. Памянёныя сябры не згаджаючыся з пастановай Агульнага Сходу і, хочучы сарваць яго, ў знак пратэсту апусьцілі салю.

Уступаючаму Ураду і Рэвізыйнай камісіі, пасьля справаздачы, Агульны Сход пастанавіў удзяліць абсолюторыюм.

Пасьля гэтага адбыліся выбары Ураду і Рэвізыйнай камісіі на наступны акад. год. Амаль што аднагалосна быў выбраны Урад у наступным складзе: Старшыня — кал. М. Шкелёнак, віцэ-ст. — кал. К. Глінскі, скарбнік — кал. Калоша, сэкрэтар — кал. Я. Зянюк і вольны сябра—

кал. Гаўрылічанка, якой даручана яшчэ і бібліатэка. Заступнікі: 1) кал. С. Станкевіч і 2) кал. Чатырчанка.

Склад Рэвізыйнае камісіі: 1) старшыня — Тулейка, 2) сябры— кал. Сенкевічанка і 3) Амельяновіч; заступнікі: кал. Г. Астроўская і кал. Куніцкі.

Галаўнейшыя пастановы, вынесеныя Агульным Сходам: Пастаноўлена:

1) Зьмяніць пункт с), § 19-га Статуту, дадаючы... „Урад мае права прымаць у лік сяброў Саюзу і завешываць за непадпарадкаваньне Статуту і за дзейнасьць на шкоду Саюзу". 2) Стварыць фонд на А. Б. С. А. адкладаючы на яго 10% чыстага даходу; 3) выразіць падзяку Апякуну Б.С.С. праф. Владычку за яго даўгалетнюю апеку і прасіць Яго застацца апякуном на наступны акад. год.

„Вольная Думка." Дня 7.VII.29 г. выйшаў № 1 „Вольнае Думкі", часопісь беларускага паступовага студэнства, групуючагася каля двух завешаных на апошнім агульным сходзе сяброў Б. С. С. Саковіча і Вялецкага. Агульны лік гэтае групкі, як гэта можна вывясьці з сьпіску асоб, злажыўшых „ахвяры" на выдавецкі фонд „Вольнае Думкі" абмяжоўваецца да 9 асоб. Затое якія-ж высокія парывы агарнулі ўсіх іх! Пазастаўшымся сябрам Б.С.С. закідваецца і „спэкуляцыя на Б.С.С. і „змаганьне проці пэўных асоб" (іх значыцца) і многа яшчэ чаго. Тымчасам справа прадстаўляецца куды прасьцей. Некаторыя з гэтых „сяброў", чыста інтэрнацыяльнай ідэолёгіі, і трактуючая беларускую справу толькі як сродак да зьдзейсьненьня іх „вышэйшых" мэтаў, — прыпадкова апынуліся ў Б.С.С., як прыпадкова апынулася ў ім прад некалькі гадамі групка расейцаў. Спаткаўшыся з належнай ацэнкай свае тактыкі, — нічога не маюць больш рабіць, як за прыкладам сваіх старэйшых таварышоў—грамадзян выліваць усякі бруд на ўсіх сваіх „ідэолёгічных" праціўнікаў.

Гожа аднак-жа адзначыць, што вялізарная большасьць сяброў Б.С.С. якраз мінаецца з імі і стоючы на груньце выразна народным, сьвядомая сваіх высокіх заданьняў перад народам, вядзе сваю працу згодна са сваім статутам у зусім проціхлежным кірунку. Аб гэтым сьведчыць хоць-бы галоўная думка органу беларускага студэнства, выдаванага ўжо ў працягу некалькі гадоў „Студэнская Думка.", проці якога ізноў-жа памянёная групка робіць закід, што ён не адбівае думкі бел. студэнства, бо рэдактар самавольна адкідывае артыкулы, якія яму не спадабаюцца... Невялічкая папраўка: рэдактар „Студэнскае Думкі" не накідываецца звонку а выбіраецца агульным сходам Б.С.С. і калі ён можа і бывае „тэндэнцыйным," як гэта кажуць сябры з „паступовага" лягеру, — і што ніколі ня мела месца, дык—гэта-ж воля агульнага сходу — найвышэйшае ўлады ў Б.С.С. Яшчэ адзін мамэнт некаторыя сябры, што групуюцца каля „Вольнае Думкі"—„паступоўцы"—якія залічаюць сябе да „акадэміцкае беднаты" і, якія хіба дзеля гэтага ніколі не плацілі складак ў Б.С.С. (3 зл. ў год) — аказаліся нязвычайна ахвярнымі, калі прагледзіць іх складкі на выдавецкі

фонд „Вольнае Думкі.“ Можна падумаць, што якраз паміж імі пад відам „акадэміцкае беднаты“ крыюцца „найвялікшыя буржуі“, а не ў проціlежным лягеры, як яны кажуць.

З гэтага вынікае, што напады сяброў з „Вольнае Думкі“ ня маюць пад сабой ніякае рэальнае падставы, а зьяўляюцца вылучна сьвядомым ці несьвядомым ад іхвяе волі шкоджаньнем ў ва ўсей працы Саюзу і ўводжаньнем „некаму“ карыснай дэструкцыі і разладу.

Прыплыў новых сяброў у Бел, Студ. Саюз. З пачаткам сёлэтняга акадэмічнага году ў Беларускі Студэнскі Саюз паступіла новых 20 сяброў.

Урадаваньні ў Бел. Студ. Саюзе. Урадаваньні ў Бел. Студ Саюзе адбываюцца ў кожныя панядзлекі, чацьвяргі і суботы ад 5 да 7 гадз. вечара.

Спэкталь-вечарына ў Бел. Студ. Саюзе. Музыкальна-Драматычнай сэкцыяй Бел. Студ. Саюзу дня 28 верасьня 1929 г. была зладжаная спэктакль-вечарына, якая адбылася ў салі Беларускае Гімназіі ў Вільні; у праграму вечарыны ўходзіла: 1 „Страхі жыцьця“ п'еса ў 3-х актах Фр. Аляхновіча, 2) „Міхалка“ — камэдыя ў 1 акце Далецкіх і 3) Скокі. Праграма была выканана вельмі артыстычна і ўмела. Прысутных было шмат.

Рэфараты ў Беларускім Студэнскім Саюзе. Дагэтуль адбылося тры. 1) Дня 6.X-29 г. кал. Ст. Станкевіча на тэму: „Мэты і заданьні беларускага студэнства“ 2) Дня 13.X. 1929 г. кал. А. Бартуля на тэму: „Уваті аб мастацтве“. 3) 20.X-29 г. кал. Ст. Станкевіча на тэму: „Янка Купала як прарок беларускага народу“. Падобныя рэфэраты будуць адбывацца і ў далейшым часе.

Гарбатка ў Бел. Студ. Саюзе. Дня 27 кастрычніка б. г. адбылася супольная гарбатка сяброў Беларускага Студэнскага Саюзу.

Літоўска-Беларуска-Украінскі суботнік. 26 кастрычніка б. г. у салі Літоўскага Клюбу адбыўся літоўска - беларуска - украінскі суботнік. Факт гэты сьведчыць між іншым і аб тым, што запачаткованы год таму назад беларуска-літоўска-украінскае зблiжэньня сярод студэнскае моладзі контынуюцца і далей. Наагул. нашым грамадзкім абавязкам ёсьць вясьці далей узаемнае зблiжэньне.

Паасобныя сэкцыі ў Бел. Ст. Саюзе. Урад БСС. з мэтаю большае продуктыўнасьці ў працы на паседжаньні сваім дня 6.X-29 г. зарганізаваў некулькі сэкцыяў, якія маюць заняцца паасобнымі галінамі працы. І так паўсталі наступныя сэкцыі:

1) Літэратурна - навукова- краязнаўчая, на кіраўніка каторай вызначана кал. Ст. Станкевіча; 2) Музыкальна-драматычная, пад кіраўніцтвам кал. С. Сарокі, 3) Сэкцыя нясталых даходаў, пад кіраўніцтвам кал. Т. Куніцкага. Усе гэтыя сэкцыі вядуць ужо даволі продуктыўную працу, кожная ў адпаведнай сабе галіне.

Радакцыйная Калегія Студэнскае Думкі скадаецца: Як рэдактар, старшыня — кал М. Шкелёнак, сябры — калегіі: К. Глінскі, А Бартуль, Ст. Станкевіч і М. Пецюкевіч.

350-лецьце заснаваньня Віленскага Унівэрсытэту. Дня 9,10 і 11 кастрычніка б. г. Віленскі унівэрсытэт адсьвяткаваў 350-лецьце свайго заснаваньня і 10-лецьце свайго ўзнаўленьня. На ўрачыстасьці сьвяткаваньня зьехалася многа прадстаўнікоў з усяе Польшчы.

Склад Ураду Бел. Студ. Саюзу. Дзеля таго, што з Ураду выбранага на агульным сходзе дня 26 траўня б.г. два сябры пайшлі адбываць вайсковую службу, на іх мейсца ўвайшло да Ураду двух заступнікаў. Такім спосабам склад сёлетняга Ураду Бел Студ. Саюзу наступны: М. Шкелёнак—старшыня; В. Чатырчанка—віцэ старшыня; Ст. Станкевіч—сэкрэтар; К. Глінскі — скарбнік; Н. Гаўрылічанка — вольны сябра.

Беларускае студэнства ў Варшаве арганізуецца. Паводле апошніх вестак, беларуская студэнская моладзь варшаўскага ўнівэрсытэту прыступае з бягучым акадэмічным годам да стварэньня сваей арганізацыі. Пачынаньні нашых варшаўскіх калегаў горача вітаем!

—о—

Пісьмо кал. Куніцкага дзеля тэхнічных прычын Рэдакцыя зьмесьціць у наступным нумары „Ст. Д.“

Рэдактар і выдавец МІКАЛАЙ ШКЕЛЁНАК.